# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 12 (577) ГОД XII 19 САКАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### З ПЛАНА ПРАЦЫ ГП БГКТ НА 1967 ГОД

Апошняе пасяджэнне прэзідыума ГП БГКТ зацвердзіла план працы нэ 1967 год. Складаецца ён у асноўным з 5-ці, свайго роду, раздзелаў, якія маюць такія загалоўкі: 1) справы арганізацыйныя, 2) справы прапаганды, 3) справы асветы, 4) справы аматарскага руху, 5) справы выдавецтва.

У гэтай інфармацыі прыводзім важнейшыя пункты з успомненых раздзелаў. І так, згодна з планам, у гэтым годзе павінна адбыцца 11 пасяджэнняў прэзідыума ГП і 2 пленарныя пасяджэнні ГП. Ва ўсіх аддзелах БГКТ у суме адбудзецца 52 пасяджэнні праўленняў аддзелаў і 14 канферэнцый.

Вялікая ўвага адводзіцца наведванню і абслугоўванню гурткоў БГКТ актывам аддзелаў і інструктараў ГП. Паводле плана, інструктары ГП павінны выязджаць у камандзіроўку 10-15 разоў у месяц, а кіраўнікі аддзелаў ГП 8—10 разоў. Вялікімі мерапрыемствамі паасобных аддзелаў будуць беларускія фэсты, якіх адбудзецца 5.

У гэтым годзе будзе значна больш звяртацца ўвагі на супрацоўніцтва БГКТ з іншымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у нашых паветах.

Раздзел плана прапаганды складаецца з 11 пунктаў. Да важнейшых з іх трэба залічыць: а) падрыхтоўка 60 радыёгутарак, якія будуць прачытаны праз радыёвузлы; б) правядзенне 300 гутарак на тэмы, звязаныя з беларускасцю; в) арганізаванне 200 дакладаў; г) падрыхтоўка 200 фотавыставак з жыцця БССР і БГКТ; д) задэманстраваць 220 савецкіх фільмаў для членаў і сімпатыкаў БГКТ; е) у гэты раздзел уключаны акадэміі з нагоды розных гадавін і дзяржаўных свят.

Раздзел плана ГП БГКТ на 1967 год пад загалоўкам «Асвета» складаецца з 13 пунктаў. Запланавана вясці шырокае супрацоўніцтва з асветнымі ўладамі і ў галіне прысляшэння друку беларускіх падручнікаў і ў галіне намаганняў арганізавання завочнага навучання на беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Прадбачана ў гэтым годзе арганізаваць 15 курсаў беларускай асветы для дарослых, супольна з кураторыумам правесці рэцытатарскі конкурс, а з ваяводскай публічнай бібліятэкай — чытальніцкі конкурс. БГКТ уключыцца ў адзначэнне дзён культуры, кніжкі, прэсы і радыё.

У раздзеле «Аматарскі рух», план ГП прадбачвае 30 выступленняў мастацкіх калектываў паасобных аддзелаў і 242 канцэрты эстрады ГП «Лявоніха».

У гэтым годзе ГП арганізуе 2 курсы для кіраўнікоў аматарскіх калектываў. Запланавана таксама правядзенне аглядаў, павятовых і цэнтральных для аматарскіх мастацкіх калектываў з беларускім рэпертуарам, а таксама папоўніць народнымі ўборамі выпазычальні паасобных аддзелаў.

У 5-ым раздзеле пад загалоўкам «Выдавецтва» прадбачана выдаць зборнік сцэнічных твораў, беларускі каляндар на 1968 год, літаратурны альманах, навуковы зборнік, зборнік паэзіі В. Шведа, А. Барскага, І. Чыквіна.

Запланавана таксама выдаць грампласцінку беларускіх народных песень Міхася Забэйды-Суміцкага.

Згодна з планам працы ў гэтым годзе адбудзецца па тры пасяджэнні камісій культуры і прапаганды, два пасяджэнні камісіі асветы, а таксама чатыры пасяджэнні навуковага гуртка і 2 семінары літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

У этнаграфічны музей БГКТ у Белавежы далей будуць збірацца экспанаты.

мх



ДАРОГА Ў БЕЛАВЕЖУ. ФОТА УЛ. ПАЎЛЮЧУК

## З ЧАГО ЖЫВЕ ГАЙНАЎКА?

З чаго жыве Гайнаўка? Гайнаўка жыве з Белавежскай пушчы. Пушча стварыла Гайнаўку, дала хлеб, зрабіла з Гайнаўкі горад.

У Гайнаўцы фабрыкі, іх ядою з'яўляецца дрэва, лясное дрэва, лес. І толькі лес. Падобных фабрык прыбудзе больш, будзе мэблевая фабрыка, фабрыка плітаў. Мо і яшчэ якія? Мо яшчэ новыя, другія. Усе яны, якія б не былі, будуць карміцца дрэвам.

Таму гайнаўскія ўлады асаблівую ўвагу прысвячаюць лясной гаспадарцы, якая вырашае аб багацці павета і яго эканамічнай сіле. Час падумаць аб расшырэнні лясных масіваў, час падумаць аб вялікіх пасадках лесу на слабых землях, якіх многа. Ужо афіцыяльна нават запланавана, што на працягу бліжэйшых 2—3 год будуць засаджаны лесам усе такія слабыя землі і адлогі. Гэта вельмі кароткі тэрмін, але такі спех мае вялікі сэнс, менавіта, для Гайнаўкі. Чым хутчэй пачне расці лес, тым ёй лягіей. Тым пэўнейшы яе лёс. Трэба ведаць, што вырубкі лесу ў самой Белавежскай пушчы дасягнулі высокага ўзроўню.

У сучасны момант лясная гаспадарка дае да 50-ці мільёнаў злотых даходу штогод у грашовы бюджэт Гайнаўскага павета. У меру таго, як развіваецца прамысловасць, вырубкі павялічацца ўдвая. Ці Белавежская пушча вытрымае гэтакі тэмп вырубак? Дырэктары і спецыялісты кажуць, што так. Вытрымае. Але, напэўна, задрыжаць у Белавежы ногі ад такой ламатні яе. Тым болей, што Белавежа перажыла трыццацігадовы перыяд грабежніцкай гаспадаркі: пачынаючы ад нямецкай акупацыі ў 1915 годзе (тады і ўзнікла Гайнаўка) і канчаючы на 1945 годзе, у перадваенныя часы грабілі замежныя фірмы. На працягу тых трыццаці год у Белавежскай пушчы вырубвалася па сто восемдзесят фэстметраў дрэва з аднаго гектара! О ля! Можна здзівіцца, што Белавежа яшчэ існуе, не памерла стоячы. Бо і праўда, мала ўцалела ў ёй старых бораў, усё маладняк.

Рубаем маладняк, і як сцвердзіў адзін дырэктар, пераважна рубаем маладняк, малады лес у Белавежаўскіх урочышчах. Няма іншага выйсця.

Гайнаўка жыве з Белавежскай пушчы. Вырубкі лічацца найбольш цяжкаю працаю, і небяспечнаю працаю. Нягле-

(Працяг на стар. 5)




* * *

Мне часта сняцца тыя далі,
Мне часта сніцца край бацькоў,
Адкуль у свет мы вылятталі,
Як ранні вывадак шпакоў.
Мне сняцца: светлая рачулка,
І рэбры мосціка над ёй,
І выспа жоўтая, як булка,
І цёмны лес за выспай той,
І белы камень ля парога,
І свежы ранішні мурог,
І поле, поле, без якога
Мой дзед жыцця ўявіць не мог.

**Марк Смагаровіч**



## ЧАС ПОРАХУ І ТРЫВОГІ

Была позняя восень 1945 года. Вёска наша знаходзілася далёка ад шумлівых дарог і гарадоў. Але трывожныя весткі прабіраліся і да нас, а разам з імі — новае, чужое слова: **рэакцыя.** Кожны панядзелак гаспадары адпраўляліся ў Кляшчэлі на кірмаш і адтуль прывозілі весткі, да якіх прызвычаіліся людзі ў час акупацыі. Потым на вечарынках адзін другому апавядалі каго забілі гэтыя з лесу, каму рэбры «палічылі», а каму тысяч са дваццаць кантрыбуцыі заплаціць загадалі.

Вечарам да нас на панадворак заехала нейкая чужая падвода. Незнаёмы гарадскі чалавек пашаптаў крыху з бацькам і, кіўнуўшы галавой у бок падводы, сказаў:

— Бяры, у снапку саломы.

Бацька асцярожна зняў снапок жытнёвай саломы і павалок яго ў клуню. Схаваў у найцямнейшы куток. Калі бацькавы госці пайшлі паспрабаваць свежанькай самагонкі, я забраўся ў клуню. Па-ціху, бы кот, знайшоў гэты таямнічы снапок і асцярожна ўвапхнуў руку ў яго нутро. Пад пальцамі пачуў халоднае жалеза і знаёмы кшталт вінтоўкі. Хацелася адразу пабегчы да сваіх сяброў і пахваліцца тым, што мой тата мае вінтоўку. Хай бы заздросцілі мне! Але я ведаў, што трэба маўчаць. Ноччу маці дакарала бацьку:

— На якога чорта табе гэтая кацюба! Застрэляць цябе, як сабаку.

— Хай спрабуюць! — сонна адазваўся бацька.

— Адзін ты многа чаго ім зробіш! Нас усіх паб'юць, — не адставала маці.

— Будзе нас больш, пабачыш, — упэўнена заявіў бацька. — Ніякая сволач не адважыцца нават носа паказаць у нашай вёсцы.

Бацька не хлусіў. Сведчаць аб тым пажоўклыя ўжо пратаколы і справаздачы з дзейнасці гуртка Польскай Рабочай Партыі ў Вульцы Нурэцкай, цяпер Сямяціцкага, а тады яшчэ Бельскага павета. Ужо на пачатку 1947 года гурток гэты налічваў 26 членаў, а 65 гаспадароў былі членамі гуртка Саюза сялянскай самапомачы. 19 членаў ППР мела зброю. А на партыйным сходзе, які адбыўся 22 лютага 1947 года, адзін з актыўнейшых членаў гэтага гуртка ППР Павел Юзвовіч з абурэннем гаварыў, што павятовая камендатура ОРМО не дастаўляе для іх зброі, хаця ўжо звыш года ўсе ППР-оўцы маюць дазвол і дакументы на зброю. Некалькі месяцаў пазней бачым у справаздачы, што лік членаў армоўскай арганізацыі павялічыўся ўжо да 26-ці. Значыць, прыступілі да яе і атрымалі зброю ўсе партыйныя. Тады бацька сваю вінтоўку замяніў на аўтамат ды яшчэ дастаў пісталет.

Прыпамінаецца мне сход гуртка ППР у нашай вёсцы, які адбыўся перад самымі выбарамі ў першы пасляваенны Сейм. Сход праходзіў ноччу. Нават газоўкі не запальвалі. Усе сабраліся ў нашай хаце. Я падслухоўваў пад дзвярыма.

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ВЫБАРЫ Ў СССР

У мінулую нядзелю адбыліся выбары ў 9 рэспубліках СССР да ўсіх тыпаў рад. У астатніх 6 рэспубліках выбары адбудуцца ў гэтую нядзелю.

### КІРМАШ Ў ЛЕЙПЦЫГУ

У Лейпцыгу (ГДР) закончыўся міжнародны кірмаш. Прыняло ў ім удзел 10 тысяч экспанентаў. Прыехалі сюды камерсанты з 90 краін свету. Трэба дадаць, што капіталістычныя краіны занялі тут 70% тэрыторыі кірмаша. Міма ізаляцыі і непрызнавання ГДР, у кірмашы прынялі ўдзел многія заходнегерманскія фірмы, якія вельмі зацікаўлены ў расшырэнні гандлёвых сувязей з ГДР.

### ЗА 5 ГОД НА МЕСЯЦ

Генерал Мікалай Каманін, які з'яўляецца апекуном савецкіх касманаўтаў заявіў польскім журналістам нядаўна, што ў СССР вядзецца падрыхтоўка да чарговых групавых касмічных палётаў. **«Не спяшаемся з груповымі палётамі, —** заявіў генерал Каманін, — **таму, што поспех вядзе да няшчасных выпадкаў...»** Адказваючы на пытанне ці не будзе нейкіх палётаў з нагоды юбілеяў (10-годдзе пачатку касмічнай эры і 50-годдзе Вялікага Кастрычніка), генерал Каманін заявіў: **«Не хочам спалучаць нашай падрыхтоўкі з ніякай канкрэтнай датай. Калі касмічны карабель і экіпаж будуць гатовы, тады дамо загад к старту. Можа гэта супасці з юбілеем, можа быць пазней. Асноўная справа — гэта гарантыя, што палёт будзе ўданы».**

Аб палётах на Месяц генерал Каманін сказаў: **«Цяжка падаць дату першага палёту на Месяц. Адно, што будзе напэўна: за 5 год экіпажныя палёты на Месяц будуць частымі, а ракеты сюды будуць імчацца па ўезджаных шляхах».**

### 24 МІЛЬЁНЫ САМАХОДАЎ

У 1966 годзе на свеце выпрадукавана 24 мільёны самаходаў. Больш мільёна самаходаў у год прадукуюць такія краіны, як Злучаныя Штаты (10,3 мільёна самаходаў), ФРГ (крыху больш як 3 мільёны), Японія (2,2 мільёна), Англія (2,1 мільёна), Францыя (2 мільёны) і Італія (1,3 мільёна). Прадукцыя самаходаў у мінулым годзе паменшылася ў ЗША, Англіі, а часткова і ФРГ, а павялічылася ў Францыі (на 26%) і Японіі (на 20,5%).

### БЕЛАРУСКАЕ БАКУ

Так, так беларускае, таму што ў апошнія гады на Беларусі зроблена геолагамі многа адкрыццяў, знаходзячы між іншым багатыя паклады нафты. Вучоныя сцвердзілі, што эксплаатацыя **беларускай нафты таннейшая ад каўказскай.** Хаця ў мінулым годзе ў заходняй Беларусі эксплаатавалася толькі 200 тысяч тон нафты, у **1970 г. лік гэтых павялічыцца да некалькіх мільёнаў** тон, а **ў 1980 г. ў паўтара разы будзе перавышаць эксплаатацыю нафты ў Баку.**

А. К.

## БССР

### ПЕРШАЯ

— «Сярод многіх праблем, якія стаяць цяпер перад нашай народнай гаспадаркай, праблемай нумар адзін з'яўляецца далейшае павышэнне прадукцыйнасці працы і якасьці прадукцыі. Мы заўсёды павінны памятаць указанне У. І. Леніна аб тым, што прадукцыйнасць працы гэта самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу, для трыумфу камунізма», — сказаў Пятро Машэраў, першы сакратар ЦК КП Беларусі. Ён як кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларускай ССР выступіў з вялікай прамовай пад час сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі.

### ТЫСЯЧА

Больш 1.000 інжынераў розных спецыяльнасцей выпускае сёлета Беларускі палітэхнічны інстытут.

### КНІЖКА

**«З думай пра Беларусь».** Так называецца кніжка Генадзя Кісялёва, прысвечаная жыццю і дзейнасці Кастуся Каліноўскага. Асноўнае месца ў кніжцы займае **«Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага».**

Аўтар кніжкі паказвае, як нарастала цікавасць вучоных, літаратараў і мастакоў да героя Беларусі («Калінаўскіяна»). Нелегальна друкаваная Каліноўскім «Мужыцкая Праўда» была рассеяна па цэлай Беларусі, пранікла яна ў Літву, Латвію, Польшчу, знайшлася нават аж у Лондане.

### ГЛЕБАЎ — САРОКІН

Памёр на 68-ым годзе жыцця Глеб Глебаў-Сарокін, вялікі акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы ў Мінску.

### СТАЖОЎКА

Група супрацоўнікаў Акадэміі навук Беларускай ССР выехала на стажоўку ў Англію, Польшчу і іншыя краіны.

### ЛАБАРАТОРЫЯ

На Гродзенскім азотнатукавым заводзе створана навукова-даследчая лабараторыя аўтаматыкі і вылічальнай тэхнікі.

### ВЫСТАЎКА

Наладжана выстаўка **«Баявая слава Беларускай ваеннай акругі».**

### ЗВЯРЫ

У лясах Беларусі жыве прыблізна каля дваццаці тысяч лосяў, пятнаццаці тысяч дзікаў, сарака тысяч сарнаў, пяці тысяч барсукоў, каля трынаццаці тысяч амерыканскіх і еўрапейскіх норак, сем тысяч выдраў.

Жыве яшчэ каля двухсот мядзведзяў. Устаноўлена, што не зусім вынішчаны ваўкі на Беларусі, налічана іх каля двухсот штук.

### НАФТА

На Палессі адбываюцца інтэнсіўныя пошукі новых нафтавых крыніц. Узнікаюць цэлыя нафтавыя палі, асабліва ў аколіцах, так званага, Рэчыцкага Палесся.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ВЯСНА — 67

У Познані адкрыты XIX краёвы кірмаш «Вясна — 67». Згуртаваў ён каля 7 тысяч выстаўцаў дзяржаўнай, спулдзельчай і прыватнай прамысловасці. Прапануюць яны прамысловых і спажывецкіх тавараў на агульную суму каля 36 мільёнаў злотых. Тавары прызначаны на забеспячэнне краёвага рынку ў II паўгоддзі гэтага года.

### ПАРТЫЯ Ў ВЁСЦЫ

У вёсках краіны дзейнічае 37 тыс. партыйных арганізацый, якія згуртоўваюць каля 550 тысяч членаў і кандыдатаў, а ў тым ліку звыш 230 тысяч сялян. У апошнія гады адзначаецца пастаянны і сістэматычны ўзрост колькасці сялян — членаў партыі.

### ДАГАВОР ПІСЬМЕННІКАЎ

6.III. у Доме літаратуры ў Варшаве падпісаны дагавор паміж Саюзам польскіх літаратараў і Саюзам пісьменнікаў СССР на 1967 год. Дагавор прадбачыць перад усім пашырэнне кантактаў у сувязі з 50-ай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

### РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ

Пакліканыя пасля VII Пленума партыі камісіі склалі звыш 30 тысяч прапаноў дзеля павышэння прадукцыі паасобных прадпрыемстваў. Да канца студзеня ўведзена ў жыццё каля 3600 прапрапаноў.

### ЭКСПАРТ «ВАРШАЎ»

У рамках дагавору Польшча вышле ў Калумбію 1500 аўтамашын тыпу «Варшава».

### ПАСЕВЫ ПРЫ ДАПАМОЗЕ САМАЛЁТАЎ

ПГР-ы ў Вроцлаўскім і Варшаўскім ваяводствах, якія маюць вялікія комплексы палёў, прызначаных пад яравыя пасевы, абсяваюць іх штучнымі ўгнаеннямі пры дапамозе самалётаў. У бліжэйшым часе падобныя працы пры дапамозе самалётаў выконвацца будуць у іншых ваяводствах (між іншым і ў Беластоцкім).

### ПОЛЬШЧА — ЯПОНІЯ

Экспарт польскіх тавараў у Японію ўзрасце з 2 да 25 мільярдаў долараў. Японія цікавіцца нашым вугалем, сельскагаспадарчымі прадуктамі і некаторымі машынамі. Польшча тым часам закупіць у Японіі вырабы хімічнай і электратэхнічнай прамысловасці.

### ПЕНСІЯНЕРЫ ЕДУЦЬ НА ВЁСКУ

Польскае радыё праводзіць акцыю па арганізаванні пенсіянерам з вялікіх гарадоў летняга адпачынку на вёсцы. Пенсіянеры з горада ўзамен за вясковую гасціннасць дапамагаць будуць гаспадарам у пільнаванні хаты, дзяцей і ў дробных дамашніх занятках. Акцыяй зацікавіліся Польскі камітэт грамадскай дапамогі і Камісія прыяцеляў старэйшага чалавека. Прапановы гаспадароў адносна гасціннасці для старэйшых людзей з горада сяляне могуць высылаць у Польскае радыё.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАЕ МЕСЦА

Беластоцкая «Цэнтраля насенная» заваявала ў краіне першае месца. У 1960 годзе прадала яна рознага насення на 123 мільёны злотых, а зараз прадае — на 446 мільёнаў зл. За гэты перыяд часу плошча кантрактаваных культур цэнтралі павялічылася ў тры разы. 11 сакавіка г.г. калектыў беластоцкай «Цэнтралі насеннай» атрымаў пераходны сцяг. Уручыў яго намеснік міністра сельскай гаспадаркі Станіслаў Гуцва.

### КАСТРЫЧНІЦКІ ЧЫН

Рабочыя прадпрыемства сухой дэстыляцыі драўніны ў Гайнаўцы рашылі прадукцыйным і грамадскім чынам прывітаць Першамай, Свята Адраджэння, VI Кангрэс прафсаюзаў і 50-ую гадавіну Вялікага Кастрычніка. Яны абавязаліся на месяц раней закончыць мантаж цэха для прадукцыі воцатавай кіслаты і такім чынам выпусціць звыш плана 135 тон гэтага хіміката. Затым калектыў гайнаўскай «хімічнай» рашыў упарадкаваць завадскую плошчу, пасадзіць дрэўцы і засеяць траву. Агульная вартасць чыну перавышае паўтара мільёна злотых. Падобныя абавязацельствы бяруць на сябе шматлікія калектывы другіх заводаў і прадпрыемстваў Беласточчыны.

### В'ЕТНАМСКІЯ ГОСЦІ

Жанчыны воўнаапрацоўчага прадпрыемства імя Сяржана ў Беластоку на сваё свята запрасілі да сябе прадстаўнікоў пасольства ДРВ у Польшчы. У час ўрачыстай сустрэчы жанчыны прынялі рэзалюцыю, у якой асуджаюць амерыканскую агрэсію. Адначасова перадалі яны на фонд дапамогі змагаючамуся В'етнаму свае ўзнагароды, якія атрымалі з нагоды Дня Жанчын. Склалі яны суму 12 тысяч 440 зл.

### СНЕЖНАЯ ПЛЕСНЯ

Станцыя аховы і каранціна раслін папярэджвае ўсіх гаспадароў аб небяспецы снегавой плесні, якая ў гэтым годзе сур'ёзна пагражае азімым культурам. Таму неабходна як найхутчэй асушыць поле ад вады, а пасля жыта і пшаніцу баранаваць лёгкай бараной і падсыпаць штучнымі ўгнаеннямі. Неабходна таксама заправіць ярае зерне перад сяўбой прэпаратамі «R» і «T».

**Сям'ю былога сакратара нашага тыднёвіка Міхася Баравіка напаткала вялікае няшчасце: пасля цяжкай хваробы памёр сын Юрка. Быў ён вучнем сярэдняй школы, рыхтаваўся да экзаменаў на атэстат сталасці. Смерць спыніла маладое жыццё.**

**Калектыў рэдакцыі тыднёвіка «Ніва» ад сябе і сваіх чытачоў выяўляе глыбокія спачуванні Маці, Бацьку і Брату памершага.**




**Niedziela 19.III.**

8.30 Politechnika TV; 9.35 Film krótkometrażowy; 9.50 Politechnika TV; 11.05 Kino Przygoda: „Na szlakach Australii" — film fab. radz.; 12.00 Zawody Narciarskie o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny. II Konkurs skoków; 14.00 Dziennik; 14.10 „Czarownice"; 14.35 „Przemiany"; 15.00 Sprawozdanie sportowe; 16.20 „Ula i świat"; 16.45 „Ludzie i zdarzenia; 17.00 „Szklana niedziela"; 17.10 „Studio 63"; 17.55 „Szklana niedziela" (II); 18.05 „Prom" — koncert popularnej muzyki symfonicznej; 18.50 „Szklana niedziela" (III); 19.05 Felieton literacki A. Sandauera; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Spektr" — program rozrywkowy (Sofia); 21.00 Reportaż film. z Zawodów Narciarskich o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny; 21.15 Niedziela Sportowa; 21.30 „Człowiek z Colorado" — film fab. USA (western).

**Poniedziałek 20.III.**

14.00 Hokejowe Mistrzostwa Swiata NRD — Czechosłowacja; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Czapeczka z pomponikiem" — film rum.; 17.10 „Tajemnice i zwyczaje pocztowego znaczka" odc. IV; 17.30 Program Red. Ekonomicznej; 17.45 „Nad Odrą i Bałtykiem"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Reportaż film. „Ludzie i volty"; 20.20 Teatr TV: „Ostatnie rozmowy" — widowisko tv wg powieści J. Putramenta „Wrzesień"; 21.30 „Na półkach księgarskich"; 21.40 Film o Algerii; 21.55 Dziennik.

**Wtorek 21.III.**

10.00 „Mój drugi ożenek" — film fab. pol.; 11.55 Dla szkół (kl. XI): Język polski — S. Grochowiak „Ballada ciesielska"; 15.25 Przysposobienie Rolnicze: „Organizacja Konkursu Uprawowego; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 „Zrób to sam"; 17.20 „Podwodne przygody"; 17.50 Kabaret reklamowy „Wiosną? Wiosna"; 18.00 „Na morskich szlakach"; 18.25 „Asocjacje" — teleturniej; 18.55 Program dokumentalny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Mój drugi ożenek" — film fab. pol.; 21.30 „Na wielkim ekranie"; 22.10 Dziennik; 22.30 Politechnika TV.

**Sroda 22.III.**

10.00 „Dr Kildare" — film; 11.55 Dla szkół (kl. VIII): Fizyka — „Prądnica i silnik"; 12.45 Dla szkół (kl. VII): Chemia — „Siarka"; 15.00 Sprawozdanie sportowe; 16.50 Dziennik; 16.55 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę"; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.45 Magazyn Postępu Technicznego; 18.15 „Stanisław Moniuszko w Krakowie"; 18.50 Dobry wieczór, jak minął dzień"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Swiątynia na wzgórzach Gudżarat" — film hinduski; 20.15 „Dr Kildare"; 21.05 „Światowid"; 21.35 Teatr TV: „No more Hiroszima"; 22.20 Dziennik; 22.35 Magazyn Medyczny.

**Czwartek 23.III.**

15.20 Kino Ptyś; 16.15 TV Kurs Rolniczy: „Wapnowanie gleby"; 16.45 „Na półkach księgarskich"; 17.00 Dziennik; 17.05 „Liga Entuzjastów Wakacji"; 17.40 Kino Filmów Amatorskich; 18.10 „Nieznany krąg" — rep.; 18.25 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 18.45 „Muzyka w Łazienkach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Arabowie i nafta" — rep. film.; 20.15 Teatr KOBRA: „Ostatnie słowo"; 21.15 „Refleksje"; 21.45 Dziennik.

**Piątek 24.III.**

16.05 Kino Ptyś; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 „Z dziejów polskiej żeglugi"; 17.35 „Radar"; 17.45 Wszechnica TV: „Tytoń — współczesna dżuma?"; 18.15 „Przygody Robinsona Cruzoe" — film fr. odc. IV; 18.45 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Orfeusz i Eurydyka" Glucka — widowisko baletowe; 21.15 „10 minut recenzji"; 21.20 Długowłosi, moda i postawa"; 22.45 Dziennik.

**Sobota 25.III.**

10.00 „Galapagos" — film dokument.; 15.40 Kino Ptyś; 16.30 Program tygodnia; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: Teatrzyk Kieszonkowy; 17.20 „Wielkopolska Kronika Dziewcząt i Chłopców"; 17.35 „Gawędy wilków morskich"; 17.50 „Po szóstej"; 18.30 Hokej. Szwecja—ZSRR (III tercja); 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Z Sophią Loren w Rzymie"; 20.50 „Spotkanie z Barbarą Bittnerówną"; 21.30 Hokej. CSRS—Kanada (II i III tercja); 22.50 „Uwaga, kot" — film sens. fr.




**17 marca, piątek**

9.00 Zorany ugór. Film. 3 seria; 14.45 Program; 14.50 Dla uczniów; 15.30 Doświadczenie zjednoczenia krawieckiego; 16.00 Dla maturzystów; 16.30 Dziennik; 16.50 Teatr TV; 18.15 Sztafeta nowin; 19.00 Śpiewa artysta ludowy ZSRR B. Sztokałow; 19.40 Nowy dokumentalny film Białoruskiej TV; 20.00 Program muzyczny; 20.30 Estetyka przemysłowa.

**18 marca, sobota**

9.55 Program; 10.00 Hokejowe mistrzostwa świata: ZSRR—Finlandia; 12.30 Dla przedszkolaków; 13.00 Koncert dziecięcego zespołu pieśni i tańca z Mińska; 13.40 Reportaż z Moskiewskiego Domu Pionierów; 14.30 Dla uczniów; 15.00 Dziennik; 15.30 Klub filmowy; 16.30 Blaski i cienie; 17.00 Teatr TV; 17.45 Poczta „Ogonioka"; 18.30 Dziennik; 19.00 „Kapitan Sowa". Film. 5 seria; 19.30 Okno satyry; 19.45 Panorama filmowa; 21.15 Melodie z Charkowa.

**19 marca, niedziela**

7.55 Program; 8.00 Budzik; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Dla młodzieży; 10.00 Dzieci malują; 10.15 „Młodość atamana". Film; 11.35 Szkatułka muzyczna; 11.50 Dla żołnierzy; 12.20 Kiosk muzyczny; 12.50 „Białoruś — moja republika"; 14.00 Hokej: ZSRR—USA; 16.20 Festiwal rolników; 17.15 Estrada-67; 18.10 Dziennik; 18.30 „Kapitan Sowa". 6 seria; 19.00 Spektakl TV; 20.00 Program rozrywkowy z Bułgarii.

НАШЫЯ НАСТАЎНІКІ

# ЗОЯ КАСТЭЦКАЯ...

...адна з нашых настаўніц, якія шыраць асвету, культуру на вёсцы. Працу гэтую распачала ў 1954 годзе пасля заканчэння ліцэя выхавацельніц дзетсадоў у Бельску-Падляшскім.

Чаму ліцэй выхавацельніц і чаму стала настаўніцай?

З простых прычын. У пачатку пяцідзесятых гадоў часта трэба было паступаць у такую школу, дзе перш за ўсё быў інтэрнат і плацілі стыпендыю. А настаўніцамі стала большая частка выпускнікоў ліцэя выхавацельніц дзетсада таму, што ў той час былі велізарныя цяжкасці з настаўніцкімі кадрамі.

Пасля заканчэння школы лёс кінуў Зою на працу ў Новую Волю, Беластоцкага павета. Тут маладая некваліфікаваная настаўніца, апрача працы ў школе, звязваецца з беларускім драмгуртком у гэтай жа вёсцы. Затым працуе ў Коматаўцах, Крушынянах і адтуль пераводзіцца на працу ў сваю родную вёску Піражкі, Сакольскага павета. У кожнай вёсцы, дзе б Зоя ні працавала, была яна звязана з мастацкім беларускім рухам. Яшчэ і сёння не раз успамінае тыя часы, напрыклад, што «у Крушынянах не толькі ставілі пастаноўкі,



**На здымку: урок хіміі ў VII класс астраўкоўскай школы.**

але і добра спявалі». Але маладая настаўніца займалася і павышэннем сваіх ведаў. Мусіла здабыць фармальныя настаўніцкія кваліфікацыі. Яшчэ будучы ў Новай Волі, закончыла яна кваліфікацыйныя настаўніцкія курсы. На гэтым аднак не быў канец. Працуючы ў школе ў Астраўку, Зоя Кастэцкая канчае завочнае аддзяленне настаўніцкай студыі, спецыялізацыю біялогіі з хіміяй. Гэтыя прадметы любіць і навучае іх у школе. Давялося пабываць на ўроку хіміі ў VII класе. У Астраўку маюць добрыя ўмовы ў школе, прыгожыя кабінеты амаль поўнасцю забяспечаны навучальнымі дапаможнікамі. На ўроку, дзе самі вучні праводзяць доследы, назіраецца зацікаўленне і адчуваецца, што вучні сапраўды чагосьці навучыліся.

Зоя Кастэцкая вучылася беларускай мовы ў ліцэі выхавацельніц і хіба таму ва ўсіх школах, дзе б ні працавала, вучыла дзяцей роднай мовы, бо былі гэта вёскі беларускія. І хіба не толькі. Прыгажосць роднай мовы Зоя вынесла з роднае хаты і хіба таму ўсюды ахвотна яе вучыла. Зараз у Астраўку таксама навучае беларускай мовы і што істотнае, умее прывіць любоў да яе.

Зоя Кастэцкая не занядбоўвае і грамадскай працы. Але ў гэтым годзе ўзніклі аб'ектыўныя цяжкасці, па прычыне якіх Зоя крышку менш прысвячае ўвагі працы з моладдзю: вымушана была прыняць на сябе кіраўніцтва школай, а ў сувязі з тым больш часу прысвяціць самой школе. Незалежна ад таго, мае яна цесны кантакт з моладдзю ў Піражках, дзе вядзе драматычны гурток. Зараз гурток працуе над п'есай Юркі Геніуша «Зямля».

Дасканала разумею цяжкасці. Усё ж з Астраўка да Піражкоў 2 кіламетры і часта не зусім добрай дарогі. Але ахвота дапамагчы тым, што хочуць нешта рабіць на вёсцы і робяць, перамагае ўсе цяжкасці настаўніцы.

Тэкст і фота: А. К.

# ZARZĄDZENIE MINISTRA OŚWIATY I SZKOLNICTWA WYŻSZEGO

## z dnia 23. XII. 1966 r.

## Nr PL-4113-4/66

**w sprawie ustalenia tematów uzupełniających z zakresu historii ojczystej w 8-klasowych szkołach podstawowych z dodatkową nauką języka ojczystego**

Na podstawie art. 37 ust. 1 ustawy z dnia 15 lipca 1961 r. o rozwoju systemu oświaty i wychowania (Dz. U. Nr 32, poz. 160) zarządzam, co następuje:

§ 1.

Dla ośmioklasowych szkół podstawowych z niepolskim językiem nauczania (białoruskim, litewskim, słowackim i ukraińskim) oraz dla ośmioklasowych szkół podstawowych z dodatkową nauką języka ojczystego (białoruskiego, litewskiego, słowackiego, ukraińskiego i żydowskiego) ustalam tematy uzupełniające z zakresu historii ojczystej realizowane w kl. IV—VIII.

§ 2.

Tematy uzupełniające ogłasza się jako osobne wydawnictwo.

§ 3.

Zarządzenie wchodzi w życie z dniem 1 lutego 1967 r.

MINISTER

(—) Henryk Jabłoński

Tematy uzupełniające z zakresu historii ojczystej dla szkół podstawowych z białoruskim językiem nauczania oraz dla szkół podstawowych z dodatkową nauką języka białoruskiego (ustalone zarządzeniem Ministra Oświaty i Szkolnictwa Wyższego z dn. 23. XII. 1966 r. Nr PL-4113-4/66).

### UWAGI WSTĘPNE

Szkoły podstawowe organizowane dla uczniów narodowości niepolskiej stanowią integralną część szkolnictwa PRL i mają do spełnienia wspólne dla całego szkolnictwa zadania ideowo-wychowawcze i dydaktyczne. Szczególnym zadaniem tych szkół jest umożliwienie uczniom poznawania i pielęgnowania rodzimej kultury i postępowych tradycji historycznych własnego narodu.

Program nauczania historii obowiązujący we wszystkich szkołach podstawowych PRL nie może uwzględniać szczególnych potrzeb uczniów narodowości niepolskiej. Zadanie to spełni nauczanie wiadomości z dziejów ojczystych poszczególnych narodowości niepolskich. Zaspokajać ono będzie naturalne zainteresowania uczniów przeszłością dziejową rodzimego środowiska a zarazem ukaże związki tego środowiska z historycznymi losami narodu polskiego i dzięki temu powinno odegrać doniosłą rolę, jako czynnik wzmacniający zaangażowanie tych narodowości w sprawy budownictwa socjalizmu wspólnie z narodem polskim.

Materiał nauczania zawarty w tematach uzupełniających nie stanowi pełnego i systematycznego kursu historii ojczystej poszczególnych narodów. Przy jego doborze starano się uwzględnić doniosłość historyczną wydarzeń, zaś w układzie — porządek chronologiczny. Szczególnie podkreślono wydarzenia, które mają charakter postępowy i na tej płaszczyźnie ukazano współpracę ideowo-polityczną tych narodów z narodem polskim.

Tematy stanowią element składowy obowiązującego programu historii, lecz wprowadzenie ich nie powoduje zwiększenia tygodniowego wymiaru godzin nauki przedmiotu. W związku z tym należy je omawiać w toku realizacji programu historii, wiążąc je chronologicznie i tematycznie z podstawowym materiałem.

W szkołach z polskim językiem nauczania, prowadzących dodatkową naukę języka ojczystego dla uczniów narodowości niepolskiej, tematy z dziejów ojczystych realizuje się na lekcjach języka ojczystego w ścisłej korelacji z nauką historii.

### MATERIAŁ NAUCZANIA

#### KLASA IV

Tematyka historyczna w nauczaniu języka ojczystego: G. Skaryna. Pierwsze książki w języku białoruskim. K. Kalinowski. Obrazki z walk ludu białoruskiego o społeczne wyzwolenie. Obrazki z walk partyzanckich z hitlerowskim okupantem na Białorusi.

#### KLASA V

Plemiona Słowian wschodnich. Świetność Rusi Kijowskiej za Włodzimierza i Jarosława. Wprowadzenie chrześcijaństwa (988). Kształtowanie się feudalizmu na Białorusi. Podbój Białorusi przez Tatarów.

#### KLASA VI

Najazdy książąt litewskich na ziemie białoruskie i podbój Białorusi przez Litwę. Wpływy kultury białoruskiej na Litwie. Język białoruski — językiem kancelarii wieloksiążęcej. Reformacja na Białorusi. G. Skaryna. Utrwalenie wpływów feudałów polskich i wzrost ucisku narodowego i społecznego chłopów białoruskich. Udział chłopów białoruskich w powstaniu Chmielnickiego.

#### KLASA VII

Przyłączenie ziem białoruskich do Rosji w czasie rozbiorów Polski. Rozwój gospodarczy i kulturalny Białorusi w ramach państwa rosyjskiego. K. Kalinowski „Mużyckaja Prawda". Uwłaszczenie chłopów na Białorusi (1861). Udział Białorusinów i Rosjan w powstaniu styczniowym na terenach białoruskich. Kształtowanie się stosunków kapitalistycznych i początki ruchu robotniczego. Wspólna walka rewolucyjna Białorusinów i Polaków (ulotki Wielkiego Proletariatu w języku białoruskim).

#### KLASA VIII

Ruchy rewolucyjne na Białorusi w 1905—1907 r. Zniszczenia w okresie I wojny światowej. Utworzenie Radzieckiej Republiki Białoruskiej. Włączenie ziem zachodnich Białorusi do państwa polskiego w wyniku traktatu ryskiego. Dyskryminacja ludności białoruskiej i ucisk narodowościowy za rządów sanacji. Wzmożenie walki narodowowyzwoleńczej Białorusinów, KPZB, Hromada. Współpraca postępowych sił polskich i białoruskich. Połączenie Białorusi Zachodniej z Białorusią Radziecką — 1. XI. 1939 r. Walki partyzantów z okupantem hitlerowskim na Białorusi.

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII класа

### КАВАЛЬ

У добрым калгасе бліз Нёмна сівога
Я знаў аднаго каваля маладога.
На волас чарнявы,
Высокі, рахманы,
Ды толькі не з гэтага
Меў ён пашану.
Не зоркім паглядам, не постаццю гнуткай
Праславіўся хлопец, —
Праславілі рукі!
Мне нават сказалі ў калгасе аднойчы:
— Ён выкуе месяц, як толькі захоча,
Павесіць паўноччу на белай бярозе,
Каторы сапраўдны — ніяк не адрозніш! —
Не знаю,
Ці праўду казалі мне людзі,
Не знаю,
Няхай жа па-іхняму будзе!
А толькі адно вам сцвярджаю сягоння,
Што ў кузні ён з ранку да вечара звоніць,
Што хлопец прынадны,
Што майстра сапраўдны!
Бывала, ледзь золак засвеціць над хатай,
Прыцягнецца з плугам да кузні араты:
— Ці нельга парадзіць,
Адвал каб наладзіць? —
Як возьме наш хлопец жалеза кавалак
Ды, кінуўшы ў горан, нагрэе ўдала.
Здаецца, што пройдзе не болей мінуткі,
А стане жалеза, што блін той бялюткі.
А потым умомант
Змайструе, вядома.
Прыб'е адмыслова —
І плуг той гатовы!
Араты на полі баразны ўздымае
І шчодра свайго каваля ўспамінае.
Самому глядзець мне не раз давялося:
Падгоняць пад кузню благія калёсы —
Атосы на гора,
Пакрыўлены шворан,
Разбіты драбіны
Ды колы без шынаў.
Ад гэткіх агледзін не стане вясёла.
А ён толькі моўчкі бярэцца за молат,
Працуе старанна, аж пот з яго льецца,
Пакуль гэты выезд не прыйдзе да месца.
І выйшла такое —
Наклалі раз гною на гэты калёсы,
Вязуць на палетак.
А раптам як згледзяць суседзі:
— Што гэта?
Ці вы так багаты,
Ці проста вар'яты?
На выездзе гэткім
Не сорамна ў сваты! —
Аднойчы спыніўся яздок адмысловы:
Каб як за гадзіну прыладзіць падковы?
Прайшло паўгадзіны,
А можа і меней, —
Ён іскры красаў па дарозе з камення.
Каваль, што не скажа,
Дык спраўдзіць на слове.
Хвалілі ўсе ўмельства
І спрыт кавалёвы,
Што ён і паважны і ў працы заўзяты,
А болей за ўсіх выхвалялі дзяўчаты.
Падыдуць то з гэтага боку,
То з тога,
А ён, як на злосць,
Не глядзіць ні на кога!
На жарты адбуркнецца ды адвярнецца...
Дзівіліся —
Хіба няма ў яго сэрца?
Адно толькі знае ўсё звоніць і звоніць...
Гадалі — ніхто ўжо яго не палоніць?
Дарэмна ж,
Па часе —
Такая знайшлася!
Нікому ж дайсці да таго не прыйшлося,
Што гэта малая, бялявая Зося.
Прынесла аднойчы свой серп у дакоры.
Як глянуў каваль ёй у вочы-азёры, —
Увесь разгубіўся,
Ды ў іх утапіўся.
Зацвіў, як ніколі,
Ледзь вымавіць здолеў:
— Я серп твой папраўлю, што будзе ён тонак,
Скую ж табе разам, дзяўчынка, пярсцёнак:
Прыложыш да вока —
Пабачыш далёка,
Калі ж загадаеш,
Каханка пазнаеш! —
На гэтым з дзяўчынаю ён развітаўся
Ды цэлую ночку на ложак не клаўся,
Званіў малаточкамі ноч безупынна,
А, кажучы праўду, не спала й дзяўчына,
Бо грукала ў такт малаточкам, здаецца,
Дзявочае сэрца.
Калі ж яна ў кузню прыйшла раніцою,
Каваль падыйшоў к ёй з работай сваёю,
Паднёс ёй пярсцёнак і серп назублёны
А потым стаяў і глядзеў улюбёны.

(Працяг на стар. 4)

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАТРЭБНАЯ ВАДА

Забеспячэнне сельскай гаспадаркі добрай пітной вадой з'яўляецца вельмі важнай справай для нашых вёсак. Існуючыя да гэтага часу абсталяванні, забяспечваючыя пітной вадой, не пакрываюць запатрабавання сялян. У некаторых мясцовасцях выступаюць цяжкія гідралагічныя ўмовы і там спатыкаемся з частым дэфіцытам вады.

Пастаяннае абніжэнне ўзроўню сточнай вады даводзіць да таго, што ў некаторых раёнах яе можна атрымаць толькі на даволі вялікіх глыбінях. Гэтая цяжкая сітуацыя ўжо некалькі гадоў існуе таксама ў Гайнаўскім павеце. Праведзеная ў 1964 годзе першая інвентарызацыя калодзежаў выказала, што на 146 салэцтваў Гайнаўшчыны, больш як 40 вёсак адчувае недахоп вады. З'ява гэта выступае асабліва ў аколіцах Нараўкі, Ляўкова, Сакоў, Сухавольцаў і Кленік.

Жыхары вёсак Гайнаўскага павета забяспечваюцца вадой выключна з калодзежаў, якія маюць стокавую ваду. Як сцвярджае павятовая санітарна-эпідэміялагічная станцыя, кожны з гэтых калодзежаў не мае здаровай пітной вады. Да 1966 года Гайнаўшчына не атрымала ані аднаго калодзежа, пабудаванага спосабам бурэння. На перыяд гэтай пяцігодкі на Гайнаўшчыне распрацаваны ў дэталях план водных інвестыцый, якія акрэсліваюцца сумай 14 мільёнаў 404 тыс. зл. Сума гэта дазволіць пабудаваць: а) 7 глыбінных калодзежаў: у Ласінцы, Махнатым, Дубічах Царкоўных, Трэсцянцы, Чыжах, Сухавольцах і Курашаве; б) пабудуюцца насосныя ўстаноўкі пры выбураных ужо калодзежах у Бельшчызне, Тыневічах, Старакорніне, Белавежы, а пасля ў Чыжах, Сухавольцах і Курашаве; в) будзе пракладзена вадаправодная сець у Кляшчэлях.

Апрача таго, аддзел сельскай гаспадаркі прэзідыума ПРН у Гайнаўцы правядзе таксама рамонт 4-ох калодзежаў на агульную суму 20 тысяч зл.

Як з гэтага вынікае, намеры і прызначаныя сумы на забеспячэнне вёсак вадою даволі аптымістычныя.

Інжынер Аляксандр Ражкевіч
Гайнаўка

## НОВЫЯ ГУРТКІ БГКТ

Пад канец студзеня ў Гайнаўскім павеце арганізаваўся гурток БГКТ у Плянце, а ў лютым — у Саках і Вялікіх Тыневічах.

На арганізацыйных сходах былі выбраны праўленні і апрацаваны планы працы.

**Васіль Дзун**
Гайнаўка

## КОНКУРС У ГАЙНАЎЦЫ

19 лютага ў Гайнаўскім «Гурніку» адбыўся павятовы агляд шостага агульнапольскага конкурсу на найлепшае выкананне савецкай песні. Арганізатарам імпрэзы былі аддзел асветы і культуры ППРН у Гайнаўцы і Таварыства польска-савецкай дружбы. У конкурсе бралі ўдзел аматары савецкай песні з Гайнаўскага павета. Актыўны ўдзел узялі вучні сярэдніх школ, а менавіта Тэхнікум лясны з Белавежы, Ліцэй № 9 і Беларускі ліцэй. З Беларускага ліцэя выступала эстрада пад кіраўніцтвам настаўніцы Яніны Равінскай.

А. К.

## СТАДНЁЎКА

[illegible] лютага ў Доме Настаўніка ў Гай[illegible] адбылася ўрачыстасць 100-днёў[illegible]а значыць, што да канца экзаме[illegible] атэстат сталасці засталося 100 [illegible]еларускага ліцэя ў Гайнаўцы. [illegible]ня бацькоўскага камітэта Міко[illegible]ма, адкрываючы ўрачыстасць [illegible]ліў, што гэта ўжо 15-я стаднёў[illegible]а ліцэя. Жадаў ён усім 85-ці лі[illegible] пасяхова здаць экзамены. На [illegible]ку прыбылі інспектар аддзела [illegible] Мікола Сабешук і прэзас ПЗГС-у Кастусь Майсеня. На ўрачыстасці выступала эстрада ліцэя. Вечар закончыўся танцавальнай вечарынай.

В.Б.
Гайнаўка

## З ТЭЛЕВІЗАРАМ КУЛЬТУРНЕЙ

Амаль у кожнай вёсцы на Гайнаўшчыне, дзе ёсць электрычнае святло, сяляне праводзяць вольны час пры тэлевізары. Тэлевізар стаў ужо папулярным і неабходным для вясковага насельніцтва. У маёй вёсцы Альхоўцы, дзе яшчэ нядаўна не было ані аднаго апарата, зараз іх ёсць тры. Адзін з іх знаходзяцца ў школе, а два моргаюць сваім акенцам у сялянскіх хатах.

**Юрка Скепка**

## НЕКУЛЬТУРНЫ ЗВЫЧАЙ

Некаторыя звычаі, якія дайшлі да нас ад дзядоў і прадзедаў, з'яўляюцца зараз проста дзікімі. Вось, напрыклад, вясельны звычай зусім цяпер непрыемлівы. Заключаецца ён у кіданні цукерак у натоўп людзей у час ад'езду маладых да шлюбу. Людзі гнуцца, збіраюць гэтыя цукеркі. Прыкра глядзець ужо цяпер на гэты ўстарэлы звычай.

**К. С.**
Катлы

## ГАРАЧЫ СУП У ЛЕСЕ

У надлясніцтве Супрасль сезонным рабочым да месца працы штодзённа ў абед давозіцца гарачая страва. Працаўнік надлясніцтва Нікодым Лісоўскі ў гарметычным катле, пачаўшы ад Супраслі аж да Сакалды, па ўсіх месцах зрубу лесу аб'язджае з гарачым супам.

А. С.
Сакольскі павет

## КОЛЬКІ ПРАДАЮЦЬ ДЗЯРЖАВЕ

На працягу двух год, гэта значыць ад 14.XI. 1964 г. па 3.XII.1966 г., сяляне Сяміцкага павета прадалі дзяржаве 17 100 тон мяса, 14 900 тон збожжа, 57 000 тон бульбы, 39,7 мільёнаў літраў малака.

(мх)







**Дарагое Сэрцайка!**

Маю 17 год, жыву на вёсцы і вучуся ў СПР-ы ў суседняй вёсцы. Нядаўна я пазнаёмілася на адной забаве з Меткам, які адбывае вайсковую службу. Ён мне вельмі спадабаўся. Танцавалі мы цэлы вечар, а пасля Метэк адводзіў мяне дамоў. Ідучы дамоў, ён гаварыў мне аб каханні і абяцаў, што ажэніцца са мною. Я паверыла яму ў каханні і тут сталася найгоршае. Ад таго часу я адчуваю сябе цяжарнай, а ад Метка няма ніводнага пісьма, ніводнай чуткі. Бацькі на мяне сварацца, а каб пазбавіцца цяжарнасці ўжо запозна.

Парай, дарагое Сэрцайка, як выйсці з гэтай сітуацыі.

**Тося з Сакольшчыны.**

Дарагая Тося!

Мой адказ не многа ўжо дапаможа табе, бо не зменіць сітуацыі, у якой ты аказалася, але тваё пісьмо павінна быць перасцярогай іншым маладым дзяўчатам, наіўным дзяўчатам, якія вераць у каханне пры першай сустрэчы з хлопцам. Як жа ж можна паверыць у каханне пры першай сустрэчы тады, калі хлапец замнога патрабуе ад дзяўчыны. Тут кожная ж дзяўчына павінна зразумець, што ён яе толькі ашукоўвае, бо калі б сапраўды ён закахаўся пры першай сустрэчы, ніколі б не асмеліўся паступіць з ёй так, як Метэк з Тосяй.

Столькі пішацца ў газетах і часопісах аб наіўнасці маладых дзяўчат і аб трагічных выніках гэтай наіўнасці, аднак часта здараюцца такія выпадкі, як з Тосяй. Што ж я магу параіць табе, Тося? Ты ўжо вымушана радзіць. Аднак ты павінна аб гэтым як найхутчэй паведаміць Метка.

Калі ведаеш яго адрас, дык гэта вельмі лёгка. Можаш напісаць ці проста паехаць да яго. Горш, калі ты не ведаеш яго прозвішча і яго адраса. Тады пагавары з яго сябрамі, напэўна ж не быў сам і як найхутчэй разам з бацькамі пагаварыце аб гэтым з Меткам, вынікам чаго павінен быць Ваш шлюб.

Жадаю ўсяго найлепшага.

**Сэрцайка**

## СКУП КРОЛІКАЎ

На кірмашы ў Бельску-Падляшскім часта можна ўбачыць прадстаўнікоў Варшаўскай спулдзельні працы «Жывносць», якія ў мінулым годзе ад бельскіх гадоўцаў купілі каля 100 000 трусоў. Кролікі дзяржава наша высылае на экспарт у Італію, Францыю і Германію.

Тэкст і фота
**П. Зінкевіч**
Бельск



**На скупе кролікаў.**

## У ГАДАВІНУ ППР

18 лютага ў Семяноўцы і Ласінцы адбыліся ўрачыстасці прысвечаныя 25-ай гадавіне ППР.

У Семяноўцы на ўрачыстасць прыбыло каля 300 асоб. Даклад на тэму «Аб ролі ППР-у ў станаўленні народнай улады» чытаў сакратар грамадскага камітэта ПАРП Юры Кіслы.

Пасля выступіла беларуская эстрада Гайнаўскага аддзела БГКТ.

У праграме эстрады былі песні, гумар і п'еса А. Барскага «Гарадскія госці».

У клубе ў Ласінцы сабралася многа сялян з Ласінкі і навакольных вёсак і былыя члены ППР. Акадэмію распачаў Сяргей Бароўскі, працаўнік аддзела асветы ў Гайнаўцы. Потым настаўніца школы ў Ласінцы Міла Буйноўская прачытала даклад. У дакладзе гаварылі аб заснаванні і першых гадах працы ППР. У далейшым было сказана аб дзейнасці партыі на тэрыторыі Беласточчыны, Гайнаўскага павета і грамады Ласінка. Пасля даклада адбылася цікавая «згадуй-згадуля» на тэму «Што ведаю аб ППР». Удзельнікі яе з цікавасцю адказвалі на пытанні і здабылі ўзнагароды. Каля восьмай гадзіны вечара прыехала эстрада ГП БГКТ «Лявоніха», якую сяляне прывіталі гарачымі апладысментамі. Песні, танцы, гумар і музыка развесялілі ўсіх сабраных. Гарачыя апладысменты сыпаліся за кожным нумарам праграмы.

А. К.
Ласінка

## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ СПРАВЫ

Сельскагаспадарчы гурток у Белках налічвае 33 члены. Гурток мае велізарныя цяжкасці з увядзеннем механізацыі ў час палявых работ. А гэта таму, што ў нас цераспалосіца. Палоскі шырынёй у 3 метры цягнуцца часам да 4-х кіламетраў. І тут хочаш ці не хочаш, кожны змушаны канём абрабляць зямлю. Справа іншая, калі мова ідзе аб малатарні. Яна ўсім патрэбна. У мінулым годзе малатарня працавала 400 рабочагадзін. Добра паслужыла таксама машына да апрацоўкі ільну. Працавала яна ў 1966 годзе каля 140 рабочагадзін. Малатарню і машыну да ільну ўжо 4-ы сезоны абслугоўвае Сцяпан Лук'янюк, які належна аб іх дбае.

У мінулым годзе сельгасгурток выпрацаваў 10 тысяч зл. чыстага даходу.

Нядаўна наша вёска звярнулася да павятовай рады нарадовай ў Гайнаўцы, каб дапамагла правесці грамадскую камасацыю зямлі, каб ліквідаваць цераспалосіцу. Паабяцалі нам у павеце. І калі гэта абяцанка не астанецца толькі абяцанкаю, дык восенню нашыя гаспадары жыта засеюць па-новаму, на шырокіх сваіх палетках.

Ярош
Белкі

## КОМАТАЎСКАЯ ВЕЧАРЫНА

Аб тым, што моладзь Коматаўцаў (Сакольскі павет) згуртаваная ў Саюзе вясковай моладзі, арганізуе цікавыя вечарыны, усе ведаюць у вёсцы. Вось такая вечарына адбылася таксама ў студзені. Хлопцы і дзяўчаты моцна рыхтаваліся да яе. Падрыхтавалі яны дзве п'есы-аднаактоўкі — «Шпікулянт» і «Хворая лялька» — і «Згадуй-згадулю».

Уся гэта падрыхтоўка адбывалася пад кіраўніцтвам настаўніцы Веры Шапель.

Пажадана было б, каб такія вечарыны часцей арганізоўваліся.

Жыхар Коматаўцаў
М. С.

# КІНО

**Праграма на 21 — 26.III.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Jej 7 wieczorów" (czeski), 21 — 22. „Walizka z milionami" (franc.) 23 — 24. „Nieśmiały w akcji" (radz.), 25 — 26.

**Кляшчэлі**
„Pięć łusek" (NRD), 21 — 22. „Profesor Mamlock" (NRD), 23—24. „Ktokolwiek wie" (polski), 25 — 26.

**Дубіны**
„Dni grozy i śmiechu" (USA), „Kraksa" (radz.), 25 — 26.

**Нараўка**
„Cisza, na sali operacja" (radziecki), „Dzwonić Nortside 777" (USA) 22 — 26.

**Нарва**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Elektra" (duński), 22—26.

**Чыжы**
„Spacer po linie" (angl.), „Trzy kroki po ziemi" (polski), 22 — 26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Urocza gospodyni" (USA), „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 22 — 26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Pieczone gołąbki" (polski), „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 22 — 26.

**Орля**
„Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), „Nieznany" (polski), 22 — 26.

**Райск**
„Samson" (polski), „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Dzielnica kruków" (szwedzki), „Głosuję na miłość" (jugosłowiański), 22 — 26.

**Міхалова**
„W krainie dziwnych zwierząt" (radz.), 21 — 22. „Grek Zorba" (USA), 23 — 24. „Pierwszy dzień wolności" (polski), 25—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Cyrk jedzie" (USA) 22—22. „Towarzysz podróży" (radz.), 23 — 24. „Zerwany most" (polski), 25 — 26.

**Шудзялава**
„Dzielnica szczęścia" (radz.), „Pieczone gołąbki" (polski), 22—26.

**Сідра**
„Jadą goście, jadą" (polski), „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 23 — 24. „Gdzie jest trzeci król" (polski), 25 — 26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Gdzie jest trzeci król" (polski), „Wzgórze" (angl.), 22—26.

**Новы Двор**
„Operacja Y" (radz.), „Ojciec żołnierza" (radz.), 25 — 26.

**Ліпск**
„Wiosna we wrześniu" (czeski), „Wielki skok" (franc.), 25 — 26.


# Ніва

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 7.029 Błtk M-3

